

У рытмічнай і чоткай хадзе
З намі прозалаць раніцы шырыцца,
У палаючай шчырасцю лірыцы
Мы насустрач дню нашаму йдзем.

**Леанід Гаўрылаў**

Леанід Гаўрылаў

# ВЕРНАСЦЬ

вершы

ДЗЯРЖАУНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя мастацкай літаратуры
МІНСК 1961

## Шчырасць юнацкага сэрца

Шмат год у маім стале, як найкаштоўнейшая рэліквія, захоўваўся сшытачак вершаў майго лепшага друга студэнцкіх год, беларускага паэта Леаніда Гаўрылава. Такі ж невялічкі рукапісны зборнічак чакаў свайго часу ў сястры паэта Валянціны Рыгораўны. У апошнія гады для ўсіх, каму люба памяць аб паўшых у баях за Радзіму, хто прагна шануе родную беларускую паэзію ва ўсіх яе праявах, настала сапраўднае свята: адна за другой пачалі выходзіць кніжкі нашых баявых таварышаў, талент якіх дарагі нам заўсёды і застаецца з намі ў страі. Сёння чытачы атрымліваюць і кнігу паэзіі Леаніда Гаўрылава. Гэта вершы, якія, калі б паэт быў жывы, трэба было б назваць раннімі, напісанымі на пачатку творчага

шляху. Але, на жаль, гэта вершы і раннія і апошнія. Заўчасная смерць не дала Леаніду Гаўрылаву на ўсю магутнасць разгарнуць паэтычныя крылы. А гэта былі б крылы для высокага і шырокага палёту. Толькі і толькі аб гэтым сведчаць творы паэта, якія засталіся нам у спадчыну,— творы юнацкія, часам яшчэ не зусім дасканалыя, але з такім глыбокім роздумам, з такой закаханасцю, з такой улюбёнасцю ў жыццё, з такой прагай і імкненнем быць карысным чалавеку, якія пакідаюць глыбокае ўражанне. У гэтым упэўняцца самі чытачы і зразумеюць, якога паэта забрала ад нас вайна. А Леанід Гаўрылаў не адзін такі, каму ліхія заваёўнікі не далі расквітнець. Шмат цудоўных сэрцаў згарэла ў агні бітваў, і ў кожнага чалавека сёння яшчэ раз закіпіць нянавісць да падпальшчыкаў вайны, да тых, хто зноў крывавай рукой замахваецца на чалавецтва!

Пазнаёміўшыся з кнігай паэзіі Леаніда Гаўрылава, няхай чытачы нізка пакланяцца ягонай маці, бо гэта толькі дзякуючы ёй (у першую чаргу) мы мелі магчымасць сёння сабраць, хаця і няпоўнасцю, тое, што было напісана Леанідам Гаўрылавым. У дні вайны, калі на акупіраванай фашыста-

мі Гомельшчыне лютавалі гітлераўскія карнікі, маці паэта, хаваючы пад зрэбнай кашуляй каля сэрца, зберагла нам яго творы. Бацьку Леаніда Гаўрылава — перад вайной зменнага майстра торфазавода — карнікі схапілі і недзе закатавалі. Маці ўратавалася, і, ратуючыся, яна не забывала аб выратаванні сшытачкаў і фотакартак свайго сына. Як не схіліцца перад мацярынскай любасцю і вернай, перад мацярынскай мужнасцю і непахіснасцю!

*

Леанід Гаўрылаў нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Бэрдаж на Чачэршчыне. Бацька яго — тыповы для дарэвалюцыйнай вёскі малазямельнік — яшчэ да рэвалюцыі кінуў працаваць на зямлі і зрабіўся сезонным рабочым. Сям'я пераязджае з месца на месца, жыве ў Чачэрску, Добрушы, Гомелі. У апошні час, перад вайной, сям'я Гаўрылавых асталявалася на жыхарства на торфазаводзе «Давыдаўка» каля Гомеля.

Вучыўся Гаўрылаў вельмі паспяхова. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, ён паступае на вучобу ў Мінскі інстытут народнай гаспадаркі. У гэты час Гаўрылаў піша ўжо многа вершаў і пачы-

нае друкавацца ў зборніку «Аднагодкі», у газетах «Гомельская праўда» і «Літаратура і мастацтва», а пазней — у часопісе «Полымя рэвалюцыі». У 1936 годзе Леанід Гаўрылаў пераходзіць вучыцца на літаратурны факультэт Гомельскага педінстытута.

Летам 1940 года, пасля сканчэння інстытута, Леанід Гаўрылаў прызываецца ў рады Савецкай Арміі. Ён служыць недалёка ад граніцы ў танкавым палку механікам-вадзіцелем у экіпажы баявой машыны. Незадоўга перад вайной паэт піша марш Н-скай танкавай дывізіі, які выконваўся ва ўсіх часцях злучэння. Словы баявога марша-закліка луналі над байцамі ў час першай атакі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія пабандыцку напалі на нашу Радзіму.

У радах байцоў, што пайшлі ў бой, быў паэт Леанід Гаўрылаў. Ён выконваў свой свяшчэнны абавязак мужна і сумленна. На полі бою перастала біцца сэрца, у якім было многа шчырасці і цеплыні.

*

Тры гады студэнтамі мы жылі з Гаўрылавым у адным пакойчыку, дзялілі студэнцкія радасці і

няўдачы. За адным сталом здавалі дзяржаўныя экзамены, амаль разам адыходзілі ў армію. Прайшло многа год з часу нашага развітання, і вось мне выпала на долю пісаць успаміны... Існуе сумнае ўсведамленне, што твой друг загінуў, і разам з тым не верыцца, што яго няма, здаецца, што вось ён прыйдзе, вернецца... Чуецца яго голас, быццам тут у гэтую хвіліну чытае ён спакойна і ўпэўнена:

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

Бачыцца яго ўдумлівы твар, крыху нахмураныя бровы, і ў вачах, як заўсёды,— яснасць і ўпартасць.

Леанід Гаўрылаў вельмі настойліва рыхтаваў сябе да ўступлення ў жыццё. Яго адзінай марай было як мага прыгажэй і карысней аддаць свае сілы і здольнасці на служэнне савецкаму народу.

«Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан» — стаяў надпіс на сшытку з яго вершамі. У студэнцкім калектыве ён быў сапраўд-

ным важаком. Вакол яго заўсёды збіралася група аматараў паэзіі — чыталіся Пушкін і Байран, Шаўчэнка і Купала, Блок і Багрыцкі.

Ён любіў усякую працу — ці прачытаць лекцыю для школьнікаў, ці пайсці на суботнік па азеляненню горада, ці дапамагчы калгасу арганізаваць бібліятэку. У літаратурным гуртку, які некаторы час працаваў у Гомелі пры бібліятэцы імя Герцэна, ён таксама быў першым ініцыятарам. І не дзіва, што потым у арміі ён стаў любімым сябрам байцоў, а яго вершы, прасякнутыя ўпэўненасцю маладосці, карысталіся немалым поспехам.

Мне ўспамінаецца, з якой упартасцю Леанід Гаўрылаў вывучаў творы марксізма-ленінізма. Бывала, ён не спаў ноч, рабіў канспект, перачытваў, пакуль няяснае пытанне не рабілася ясным. Ужо ў той час, яшчэ такім маладым, ён разумеў і гаварыў, што чалавеку, які рыхтуецца стаць пісьменнікам, нельга не ведаць марксісцка-ленінскай тэорыі пазнання.

Леанід вельмі многа чытаў, рабіў крытычныя заўвагі аб прачытаных кнігах, прычым часта яны былі досыць трапнымі. Ён акуратна рабіў выпіс-

кі тых мясцін з кніг, якія яго найбольш уразілі. Вось, напрыклад, выпіска з «Вучнёўскіх год Вільгельма Мейстэра» Гётэ: «Верш павінен быць або выдатным, або зусім не павінен існаваць».

Вельмі любіў Гаўрылаў М. Астроўскага. Сярод яго запісак мы чытаем: «Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё. Яно даецца яму адзін раз, і пражыць яго трэба так... каб, паміраючы, змог сказаць: усё жыццё і ўсе сілы былі аддадзены самаму чароўнаму ў свеце — барацьбе за вызваленне чалавецтва».

Цудоўны выбар!

*

Неўміручыя словы Мікалая Астроўскага былі ў нашых сэрцах у гады юнацтва, калі мы сядзелі ў інстытуцкіх аўдыторыях, працавалі ля станкоў, хадзілі за плугам па калгасных палях. З імі мы ішлі на вялікую бітву за шчасце сваёй зямлі. Прачытаўшы іх сёння ў дзённіку свайго друга, я яшчэ і яшчэ раз адчуў вялікую мужнасць і ўзнёсласць нашага пакалення. Нашы маладыя сябры, што сваімі сэрцамі прыкрылі ад навалы сэрца Радзімы, цудоўна пражылі жыццё. Няхай

жа нам, што засталіся ў жывых, ніколі не забываюцца тыя дні, калі мы на хвалях гарачых вятроў упершыню ўзняліся да высокага ўсведамлення свайго жыццёвага абавязку, няхай будзе нязгасным наша імкненне зрабіць яшчэ лепшым, яшчэ прыгажэйшым жыццё, за якое памерлі нашы дарагія сябры!

*Кастусь КІРЭЕНКА*

## ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
І на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
Сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы,
І плыве, як васільковы пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
Аб вачах любімых, аб губах.

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны зараніцы,
П'юць расу палеткі на зары,—

Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
І на воды пала цішыня,
І дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня.

*1941 г.*

# АРЛЕНАК

Як вечар барвовыя промні
На вусны твае пакладзе,—
Узрушана, страсна, няроўна
Запросіцца сэрца з грудзей.
Ні ў кога вачэй такіх сініх,
Глыбокіх і шчырых такіх
Не бачыў я.
Мы з табой сына
Прадбачым у марах сваіх.
Не ўмеючы, голасам тонкім
Я ў лад нашым думкам пяю,
Я песню пяю пра арлёнка,
Любімую песню тваю.
— Арлёнак, арлёнак...
І сніцца
Шырокага стэпу кавыль.

Міжволі апусціш расніцы,
Баеў прыгадаючы быль.
— Арлёнак, арлёнак...
І сніцца —
Над пожнямі месяц плыве,
Шумяць у калінах крыніцы,
Радзімыя месцы твае.
У туманах, у замеці, ў дыме
Ты, свой пачынаючы шлях,
Басанаж мяжамі крутымі
Па чорным пажарышчы йшла.
Арлёнак над полем высока
У быстрым палёце кружыў,
І сонца паліла навокал,
І свет залаціўся і жыў.
А ты йшла малой, сіратою,
Кусаючы губы, ў слязах...
Ты стала харошай дачкою
Атрада байцоў-партызан.
І скрозь несціхана ты пела
Нямудрую песню сваю.
...У тваіх мазалях агрубелых
Я ласку тваю пазнаю.
Як вечар гарачыя промні

На вусны твае пакладзе,—
Узрушана, страсна, няроўна
Запросіцца сэрца з грудзей.
Я ўпэўнен: і нівам, і травам
Цвітучым багаццем расці.
Арлёнак — наш сын кучаравы —
Наследуе іх у жыцці.

*1939 г.*

## РАДАСЦЬ

Не шкадую, што аддаў для друга
Шчырасць сэрца, ласкі і цяпла...

Зноў вясна па сцежках і яругах
Цёплымі дажджамі пацякла.
Сонечным аблітая праменнем,
Зноў зямля зялёная цвіце,
Песнямі-вяснянкамі струменіць,
Лістам лапушыцца ўсё гусцей,
Сочная ў нязмераных разорах,
Сілай нястрыманаю гудзіць...

Вечарам рассыпаліся зоры,
І адна ў акно мае глядзіць.
Шчыра так глядзіць і не маргае,
Як раптоўнай радасці сляза.

Што ты хочаш, зорка дарагая,
Ды не можаш мне пераказаць?
Я ж перад табой не захаваю
Палкае жаданне, не ўтаю...

Дзе ты, радасць? Я цябе шукаю!
Ці знайду жаданую сваю?
...Я прайдуся маладжавым садам
Па душыстай маладой траве,
На пянёк імшысты я прысяду —
Нада мной засвішча салавей,
Закалышуцца суквеццем вішні,
У вуллі задзвынкае пчала...

Тут нішто не можа стацца лішнім,
Што вясна да руху прывяла.
І так хочацца сказаць жывому
Чалавеку, лепшаму сябру:
У сабе я ўвесь вясновы гоман
У адзнаку дружбы сабяру!
Бор сыры, шумі, шумі лістамі,
У ліleях плавай ты, рака...

Я ніколі пець не перастану,
Адчуваючы ў сваіх руках

Цеплыню рукі сяброўскай. Знаю!
А калі і скончан будзе спеў —
Я скажу: люблю цябе, мой краю,
І за тое, што пражыць паспеў!
А пакуль жывы, то буду рухаць
Па вясне наперадёт, уплаў...

Буду рад, калі аддам для друга
Шчырасць сэрца, ласкі і цяпла!

*1939 г.*

* * *

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагоднасцю павее ад ракі,—
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.

Бляск месяца, і вішань белых цені,
І пустацвет гарбузны на плятнях
Снуюць запеў, і лёгкім летуценнем
Спавіта песня аб цвітучых днях.

У водары палёў плыве здалёку
Узрушаны і жвавы вобраз твой,
Плыве спакоем зорак яснавокіх
Над вішнямі, над хатай, над травой.

Чаму ж усё сама ты не прыходзіш
На бераг мой, дзе лодкі чарадой

Калышуцца, дзе нізка над вадой
Каліны сняць каханне на выгодзе?

Я жду цябе, паніклыя туманы
Па цёплай разасляліся вадзе.
Дзесь плюхнуў сом, і качкі крык
стрыманы
Успалашыў сон дзеркача ў лазе.

Бяскрайнія шумлівыя прасторы
Шмат выткалі квяцістых пуцявін.
І як мне разгадаць тут, па каторай
Ты пройдзеш між узгоркаў і нізін?

Мы ў човен сядзем, плёскатам вясла
Маладзіка разломім палавіну,
Каб лётам смелым, лётам сакаліным
Дужэла песня, спела і расла.

*1939 г.*

## У КАСАВІЦУ

Больш ад хмелю пахучая ў лузе трава!
Твае кудры жартун вецярок рассыпаў,
Сарамліва цябе на ляту цалаваў,
І расла, і расла за капою капа.

Спорна ў дружбе гарачай работа ідзе.
І не ў знак, што на вуснах у кропельках пот,
І не ў знак, што ў крынічнай халоднай вадзе
Густа-сіні замёр небазвод.

Усплыве ў ціхай завадзі месяц тугі,
Пранясуцца апошнія ўдаль касачы,—
Будуць высіцца густа радамі стагі,
Будзем слухаць трапеткія зоры начы.

І забудзецца цяжкая стомленасць рук,
Зоры мкнуцца ў каханыя вочы — наніз,

Разгараецца ў шустрай лявонісе круг,
Толькі русай чупрынай трасе гарманіст!

Зоры гаснуць і зноўку цудоўна мігцяць...
І птушынае ранне прабуе лады.
Мы шчаслівы, як можна ў кіпенні жыцця
Быць шчаслівымі нам, маладым!

## ЖНІЎНАЯ НОЧ

Русакудрая ноч
    працавітай рукой
Зоры сыпала
    ў возера сонную гладзь.
Звонкі лёскат
    ліпнёвы калыша спакой,
Лазнякі заціхаюць
    і чуйна стаяць.
Песні новай, сталёвай,
    кіпучай такой
Не здаралася ім
    гэткай ноччу чуваць.

Гэта песня калгасная,
    песня жніва,
Гэта песню сваю
    працадзень дапяваў.

Заўтра ранне —
багатага дому жняя —
Хлеб сабраны на гумнах
пачне малаціць.
Над чырвоным абозам
яскравей агня
Будзе гонар калгаса
сцягамі цвісці.

Долю важкую ўсыпле
у мех працадня —
Ўвечар песні дзяўчат
будуць радасць насіць!
Спі ж, жытнёвая ночка,
Збірай нам усім
Весялосці,
бадзёрасці,
сіл!

*1935 г.*

## МАЛАДЗІК

Спавіты тугою
У пасмах журбы
Сухі маладзік
На галінах вярбы
Павіс над гарою,
А потым і знік.

Журылася матка,
Туманіўся зрок,
І зоры слязамі
Мігцелі здалёк,
Шаптаў ёй здагадку
Шырокі разліў:

— Шмат хваль уцякае,
Іх чуе вярба,

Не ведае іх
Ні вайна, ні журба,
Ім смех нецікавы,
І плач не для іх.

Шмат хваль уцякае
У прасторную сінь,
Іх толькі адных
Папытаеш:
— Дзе сын?..
Ды доля цяжкая,
Ці ж скажуць яны?

*1935 г.*

## СОЖ

Ціхі Сож. Валавяныя воды.
Бурштынее зара ў берагах.
Дзесь глухія гудкі параходаў
Аблятаюць разліўны размах.

Як у люстры, густою сцяною
Кучаравіцца лес у вадзе,
Абярнуўшыся ўніз галавою,
К водам пільнае вуха кладзе.

*1935 г.*

## НА СТАДЫЁНЕ

Стадыён
пярэсцяць шумна майкі,
Бойкай хваляй
плешчуць галасы...
Паглядзець прыйшла
старая матка,
Як бяжыць са старту
яе сын.
Весялосці,
вылітай гадамі,
У яе нялёгка адшукаць,
Дум яе
ніхто не разгадае,
Толькі бачна,
як дрыжыць рука

І таемна гэтак
свецяць вочы:
«Ты ж не збіся,
любы мой, з нагі,
Ды бяжы,
хутчэй бяжы, сыночак,
Хай не перагоніць
хто другі».
Маці! Маці!
Вось ужо і фініш,
Усміхніся ж радасна хоць
мне,
Ты сябе, як матку,
не завініш —
Я, твой сын,
прыбег за ўсіх раней.
Знаю,
выраз год тваіх
суровы.
Хоча старасць,
каб сынок здаровы
Цвёрд стаяў у справе ганаровай!
Мне ж вялікшай гордасці
няма:

Ты звядзеш
у строгай ласцы бровы,
І усмешку будзе
не стрымаць!

*Чэрвень 1936 г.*

## ДРУГУ

Пачынаючаму паэту

Крамсае сэрца песня веснавая,
І не стрымаць лірычнага радка!
Ды хто цяпер каханне захавае,
Хто аб каханай думак не наткаў?

Усе звычайна пачынаюць проста —
Бяры пяро, не думай і пішы:
«Вясна! Ты шчасце нашага узросту!
І я кахаю шчыра, ад душы!»

А прачытаеш — холадна на сэрцы,
Хоць на двары сапраўдная вясна.
Мне хочацца з пачуццямі сустрэцца,
А не лунаць у фантастычных снах.

Калі твае каханне жыць павінна,
Дык ты і ў вершах сцёбай ім і бі,
Каб, як вясна, і пацалунак грымнуў,
Каб я і верш, і справу палюбіў.

*Сакавік 1936 г.,*
*Мінск.*

* * *

Каму, калі не нам з табой, паслухаць
Раз'ярануюмузыку вясны!
Няхай за вокнамі
мяцеліць завіруха,
Мароз трашчыць
і ноч гадуе сны.

Мы, юнакі,
красуем поўным цветам,
І нашых сіл
радком не ахапіць...
Наш час — вясна!
Зіма здаецца летам,
Нам толькі працаваць
і радасць прагна піць.

Нам толькі пець,
каб песняй праца стала.
І маладосць уславіўшы сваю,
Прайсці,
ўвабраўшы томы «Капітала»,
Вітаць
Камуны
слаўную сям'ю!

*Люты — сакавік 1956 г.*

* * *

Што ні дзень —
мы ўсё больш маладзей,
Пачуццё з раўнадушшам
не мірыцца.
Нам насустрач з запалам ідзе
У палаючай шчырасцю лірыцы
Юнацтва гарачага дзень.

У рытмічнай і чоткай хадзе
З намі прозалаць раніцы шырыцца.
У палаючай шчырасцю лірыцы
Мы насустрач дню нашаму йдзем.

*1935 г.*

* * *

Лета з жураўлямі
Ў вырай адплыло.
Кінуў я з палямі
Роднае сяло.

Прывітаў я горад,
Прывітаў я вуз
І цябе з дакорам
Ў памяці заву.

Я цябе, равеснік,
Прыгадаў цяпер
Пад другія песні,
На другі манер.

Вечар ў інтэрнаце
Весела звінеў,

І студэнтка Каця
Падпявала мне.

Добрая гітара,
Ты звіні, звіні,
Нашы дні не старыя,
Маладыя дні!

Восемнаццаць год мы
З Акцябром жывём.
Працаваць мы згодны
Й весела пяём!

*1935 г.*

## ПАЭТУ

У пошуках слоў
глыбіні пачуццёвай,
Каб выказаць шчырыя
думкі свае,—
Я часта хвалююся
ў віры жыццёвым,
А поўнасці цэльнай
ніяк нестае.

І зараз я слоў
не знайду ў хваляванні,
Сказаць вам ад сэрца,
па-простаму так,
Каб вы адчувалі
маё прывітанне,

Як вашу спагаду
    шануе юнак.

Мо' я не паэт,—
    хараством славасека
Не ўмею за выдумкай
    плюшчыць павек.
Я бачу ў паэце, у вас,
    чалавека
І хочу сказаць гэта,
    як чалавек.

Прабачце нязграбнасці
    гэтага верша
(Пяру маладых
    уласцівы яны),
Радкі мае —
    кволыя водпрыскі першай,
Зялёнай маёй
    паэтычнай вясны.
. . . . . . . . .

Мне помніцца першая
    наша сустрэча.

А гэта зусім так
нядаўна было.
Я гэтак наіўна
і так недарэчы
Прыехаў сюды,
занядбаўшы сяло.

І ваша адна
чалавечая чуласць
Жывіла, вяла,
акрыляла мяне!
Пагэтаму зараз
так шчыра хачу я
Узнесці яе
за вясну
па вясне!

*1935 г.*

## ЗНОЎ ВЯСНА

Зноў вясна распаліла
зялёны пажар,
Ажно птушкі гукаюць ратунку.
Як тады, зноў нас вечар
з табою зблiжаў,
Мы у садзе шукалi прытулку.

То было ўжо даўно,
ты не помніш, відаць,
Ціха-ціха шапталі пялёсткі.
Толькі ў сэрцы,
як дзікім фантанам вада,
Кроў мая закіпала, плёскала.

Сэрца грудзі ўзрывала,
гарэла, цвіло,
Вобзем білася, к хмарам лятала...

Штось вялікае з ім
у той вечар было,
І чагосьці яму не хапала.

*1935 г.*

## РЫБАКІ

Рассыпана срэбрам
    зара над ракой,
На беразе туліцца
    ранні спакой.
Ні ветрыка подых,
    ні гоман ракіт —
Нішто не хвалюе
    шырокай ракі.
Адно толькі ніцыя
    ловы пяюць
Над водамі ціхую
    песню сваю.
Ды звонкія травы,
    сухі верасок,
Раняюць па кроплі
    расу на пясок.

А потым аднекуль
здалёк пакрысе
Разбуджаны вецер
спеў бурны нясе,
Аж хвалі ідуць
па высокай траве...
То дуб рыбалоўскі
імкліва плыве.
Дубовымі вёсламі
рэжа раку,
На беразе хваляй
заліў асаку.
І песню заводзіць
стары стырнавы.
Яна аблятае
лугі, паплавы,
Лясы баравыя,
гаі, лазнякі,
Вясёлую песню
пяюць рыбакі:
«Мы спорна і дружна
працуем заўжды,
Гуртом закідаем
свае невады.

Заўсёды вясёлыя
песні пяём,
Па рэках, азёрах
плывём і плывём».
Далёка ўжо зніклі
з вачэй рыбакі,
А песня калыша
яшчэ лазнякі,
І ветры імкліва
над імі плывуць,
Рыбацкую песню
таксама пяюць.

*1935 г.*

* * *

Іскраметная квецень зары
Налівае натхнёнасцю вочы...
Дружа любы, ты мне гаварыў,
Што са мною пагутарыць хочаш.

Як ніколі, цяпер я з табой
Раздзяліць адпачынак свой згодзен.
Думак шмат, яны шумнай гурбой
У хлапечым гудзяць карагодзе.

І таму я здаволен і рад
Прад табою душой расчыніцца,
Як пад дзень расчыняе зара
Далягляд на палі, на крыніцы.

Пра мяне ты, як хочаш, судзі
(Кожны сам па сабе носіць мары).

Выгляд — просты вясковы бландзін,
Пераносіцу ўпрог ў акуляры.

Але гутарыць з кожным я рад,
Слову новаму з радасцю веру,
З кожным сябрам я шчыры, як брат,
І пад вершы мараю паперу.

Дружа любы! Табе я кажу
Не затым, каб смяяўся з мяне ты,
Хоць і едкага слова кажух
Я прымаю ў лік чыстай манеты.

Але вартасць таварыша ў тым,
Калі здолее ён сваім сэрцам
З твару фальшы твой пыл залаты
Аплявухай маральнаю сцерці,

Каб я быў і здаволен і рад
І без лішняга цяжару крочыў,
І пад росчыркам кожным пяра
Праўда б чыстая рэзала вочы.

*Лістапад 1936 г.,*
*Гомель.*

## СПАТКАННЕ З***

Бываюць спатканні,
    што помніш да болю,
Такое спатканне,
    мой любы, з табою.
У зрэбнай кашулі,
    а косы — як шоўк.
Папросту ты так
    да мяне падышоў.

...Праніклівы погляд
    маўчаць прымушаў.
А словы твае
    і цяпер у вушах
Звіняць і хвалююць
    заўчасна мяне.
Абрыс назаўсёды
    ў душы скамянеў...

## ГУТАРКА З ПРАФЕСАРАМ

На дварэ ў пырсках сонечнай пены
Красавік перазвоньвае глуха.
На занятках я быў задуменны
І няўважліва лекцыі слухаў.

Я не помню прадмет, аб якім я
Так тады фантазіраваў надта.
Але потым у выніку... хімія...
І казаць нават гэта не варта.

Я яшчэ больш аб нечым замарыўся,
Галава нібы сціснута прэсам...
Падыходзіць камсорг:
— Таварыш,
Гаварыць з табой хоча прафесар.

Сэрца б'е, нібы выскачыць хоча,
Прада мною прафесар Ланаў.
Мне няёмка глядзець яму ў вочы,
Позірк мой засцілае туманам.

— Вы, таварыш Гаўрылаў, чамусьці
Не працуеце больш над сабою,
Вы, магчыма, і здольны, дапусцім,
Але ж будзе і здольнасць тупою,

Калі вы пакідаеце гэтак
Без увагі навуку і працу,
З вас не будзе тады і паэта,
Калі хімія вам не ўдасца.

Мы, савецкія людзі, павінны
Дасягнуць вышыні над сусветам!
Гэта можам мы ў нашай краіне,
Дзе і хімік
быць можа паэтам.

— Аляксандр Аляксандравіч...
(Штосьці
Мне кальнула пад сэрцам.
Я змоўкнуў.

На сябе не хапала мне злосці,
І вясна раздражняла праз вокны).

Я ў рашучасці вочы ўздымаю,
Чырвань сораму выдала, мусіць...
— Так, прафесар,
да Першага мая
Абяцаю, што я падцягнуся.

*Красавік 1936 г.*

## ПЕСНЯ

Вечарэла. Сінь гусцела.
Пасмаў слаліся
Валокі.

Бераг сонны, апусцелы
Затуманіўся
Навокал.

Лісце дрэў не шалясцела,
Не хісталіся
Асокі.

У небе зоры ацяжэла
У воды клаліся
Глыбока.

Ты ішла, як песню пела,
То спяшалася,
То крокам.

А мяне калі сустрэла,
Засмяялася
Нарокам.

Гушча ночы пасвятлела,
Пасмаў слаліся
Валокі,

З намі раніца запела,
Зацвіло ўсё, загудзела,
Развіднялася навокал.

І цябе назваў я песняй,
Сваёй песняй
Недалёкай.

*1935 г.*

* * *

Прыгадаю ў памяці з былога...
Сваіх год дзіцячых чараду
За віхрасты волас на галовах
Да сябе, хоць нанач, прывяду.

Прывяду і ў свой пусты пакоік
Пасаджу за стол каля акна,
І так ласкава, і так спакойна
Разбяру, дзе праўда, дзе мана.

Мне, я думаю, не будзе цяжка,
Не багата будзе разглядаць,—
Усё, як папяросная зацяжка!
Высахла, як прэсная вада.

І звіняць адны пустыя словы...
А ў пусты табачны едкі дым

Выплывае гальштук мой ліловы
І за глотку схватвае гады.

Намаршчыньце, годы, лоб пакаты,
Раскудлачце, годы, русы чуб,
Кіньце звонка смеху перакатам,
Дайце мне усё, што я хачу!

*1936 г.*

* * *

Я сяджу ў задуме,
Праз акно гляджу.
Стукаюць па шыбе
Кропелькі дажджу.

Першы дождж вясенні,
На двары цяплынь...
Ў гэту пору густа
Снуе думак плынь.

Па дарозе мокрай
Гоман ручаін...
На душы самотнасць,
Я сяджу адзін.

Хваляй успаміны
Абнялі мяне...

Радуюсь дажджу я,
Радуюсь вясне.

Многа чаго бачыў
Я ў сваім жыцці,
Многа перакрочыў
Сцежак і пуцін,

Многа на дарозе
Сябраў сустракаў,
І дарыла вернасць
Ім мая рука,

Падзяляў я сэрца
З імі папалам...
Можа, больш сустрэцца
Не прыйдзецца нам.

І цяпер у гэту
Слаўную пару
Да сябе у думках
Ўсіх я сабяру,

Ўсіх, каго я помню,
Сустракаў каго,

З кім ішлі ў юнацтве
Крокам ці бягом,
У маім хто сэрцы
Распаліў агонь.

Ў памяці знайду ўсіх,
Да сябе збяру,
З імі па-дружацку
Я пагавару,

Што было, прыпомню,
Прыгадаю ў снах...
. . . . . . . . .
Звонам кропель поўна
На двары вясна.

*Сакавік 1936 г.*

* * *

Хай песня звініць не праклёнам
У вочы завяўшаму клёну.

Хай песня раскажа пра клёны
У зелені буйна-зялёнай.

*Чэрвень 1936 г.*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

(Да 30-годдзя літаратурнай дзейнасці)

Без прыстанку песня, без прычала
Сумліла слязамі прад навалай,
Песня білася, прасіла, і крычала,
І да бойкі з ворагамі звала.

Церпяліва, горка галасіла
Над гаротнай доляю няшчаснай.
У цярпенні тым гусцела сіла
І трывала да пары да часу.

Загарэўся новай дзеі вобраз,
На палі змардаваныя рынуў.
Выйшаў з ім і ты, пясняр, харобра
Сваёй песняй услаўляць краіну.

Весялосцю шыр закаласіла,
Шчодра шчасце сыплючы наўкола,

І наліўся зноў юнацкай сілай
Бальшавіцкай шчыры слаўны Колас.

Твайму спеву радасным прычалам
Кожны кут і блізкі і далёкі,
Падымае край твой спеў высока,
З роўнай шчырасцю яго страчаюць
Трактарыст і пагранічны сокал.

Дык буйней, красуй, квітней, наш Колас,
З галавой, да сонца горда ўзнятай,
І жаданне наша — каб наўкола
Ты пасеяў больш яшчэ зярнятаў!

*Кастрычнік 1936 г.*

## СЯСТРЫ

Нас з табой разлучалі прасторы палёў,
Неабдымныя роўнядзі краю,
Пазразаныя русламі
рэк, ручаёў,
Дзе вятры толькі
покліч раняюць.

Нас з табой разлучалі
абвалы, хрыбты
Грозных гор, заўсягды непрыступных,
І за гэтым за ўсім
мне здавалася ты
Так далёкай і так недаступнай.

Але ты мне сястра
не крывёй і не родам,
Ты сястра мне жыццём,
за жыццё барацьбой!

Воблік твой —
воблік ясны
Савецкіх народаў,

І з табой —
хто не хоча сустрэцца з табой?!

Праз паўднёвыя стэпы
багатых прастораў
Па кавыльнай, здранцвелай,
тугой цаліне
Прахадзіла жаданне
імпэтным напорам,
І вялізманы трактарны
шлях нам пратаран,
Ад мяне да цябе,
ад цябе да мяне!
Па-над грознымі
скал ледзянымі клыкамі,
Па хрыбтах векавечных
з арлінымі гнёздамі гор
Мы у небе дарогу
сваімі рукамі
Стварылі,
працёрлі між зор!

Да цябе накіравана
маршавым строем
Велічавая армія
нашых герояў.
Ты сястра нам усім
не крывёй і не родам,
Ты сястра нам жыццём,
за жыццё барацьбой!
Воблік твой —
воблік дружбы савецкіх народаў,
І з табой —
хто не хоча сустрэцца з табой?!

*Верасень 1936 г.*

* * *

Як румянае сонца на сад усплыве,
Разліваючы свежага дня малачай,
Я прайдуся па роснай халоднай траве
Аж да гаю, дзе ліпы задумна маўчаць.

Я прайду раніцою па роснай траве
Там, дзе ліпы задумна ў чаканні маўчаць,
Гівал песню падыме званчэй і жывей,
І гуллівая песня яго заслыве,
І усплескі выходнага дня загучаць,
Як румянае сонца на сад усплыве.

*Ліпень 1936 г.*

## ЛІПЫ ЦВІТУЦЬ

Ліпы гулка цвітуць
пышна-мёдавым цветам,
Пчолы дбайна звілі
над цвятамі вянок,
Разліваецца водар,
і сэрца расце там,
Як радасць і шчасце
на гульбішчы гэтым,
Што ліпы сабралі
ў свой светлы цянёк.

Ліпы буйна цвітуць,
растапыраным крыллем
Абнімаючы клуба
калгаснага дах,

Дзе роем пчаліным
гудзіць несутрымна,
Аж пошчак падчас
над зямлёй усёй грымне,
Майго дня маладняк
у цвітучых гадах.

*Ліпень 1936 г.*

## ЖУРАВЫ

Я не ведаю ціхай хвіліны
Ад клапот і звадлівых трывог,
Як пачую той спеў жураўліны,
Што у сэрцы сваім не збярог.

Ведаў шмат я сустрэч і спатканняў,
Шмат пачуццяў сваіх разгубіў,
Але з гэтакім замілаваннем
Я ніколі яшчэ не любіў.

Сон ці праўда — ў душы размялося,
Патанула ў прадонні журбы.
Але зараз мне быццам здалося —
Я на вежы вясёласці быў.

І былое — маленства і гора —
На хвіліну кудысь адплыло,
Як напеў жураўліны дакорам
Маю чуласць цяпер укалоў.

*1935 г.*

## ВОСЕНЬ

Крыляе сад пажоўклаю лістотай,
Радзее яблынь анямелы цень,
Суцішны ветрык на плятнях употай
Убор асенні з павуцін пляце.

Хай роніць сад пажоўклую лістоту
І з кожным днём становіцца пусцей,—
Усё ж ветравіння ціхая самота
З маім раздум'ем поплеч не расце.

Напружны слых мой звон лістоў мінае,
У сінь пустога неба ён імкне,
Там з песняй звычнаю сталёвы птах лунае,
І сэрца позывам стукоча мне.

Аддалі яблыні свой плод багаты,
Як летні дзень ядранасцю звінеў.
Каб спажылі яго са смакам хаты
І не пашкодзілі заядлівыя гады,
Трэ' з плодам дум на варту выйсці мне!

*Верасень 1936 г.*

* * *

На бярэзнік маладжавы
Сонца сеяла святло,
І багатым ураджаем
Ранне восені цвіло.

Лісце весела кружыла
Вецяркамі на ляту.
Кроў іграла ў яго жылах,
Хоць і дух жыцця патух.

І бярэзнік маладжавы
Сонца ўсюды абліло.
У калгасе выязджалі
Рассцілаць у полі лён

Праз бярэзнік маладжавы
Па дарожцы травяной
У тое поле выязджала
Й мая мілая са мной.

*1935 г.*

## ВОСЕНСКІ ВЕЦЕР

Над бярозамі вецер
асіпла крычаў
І ад ранку да ночы скуголіў,
Як адвергнуты вобраз,
шукаў ён прычал
І спагады пытаўся у голля.

Ды такім нелюдзімам
шурпатым каму ж
Спадабаешся, восенскі вецер?
Вытчы лепей разгульную
песень кайму
І па-свойму бадзяйся па свеце.

Кожны дзень
слёзы песень сваіх вылівай
І паі імі прагнасць адплаты.

Ад таго ўсё адно
не баліць галава,
Смех жыве і табою праклЯты.

Шчодра прыгаршчы
звонкага смеху сыпну
Я ў клянована досвітку сінь,
Паднімі яго тэмай,
спявай пра вясну,
Падарункам бярозам нясі.

А такім нелюдзімам
шурпатым каму
Спадабаешся, восеньскі вецер?
Вытчы ж лепей разгульную
песень кайму
І па-нашаму лётай па свеце.

*Кастрычнік 1936 г.*

* * *

Пабрыду я сцежкаю
Лугавой, квяцістаю,
Ля крыніцы дальняе
Да паўночы выстаю.

Упадзе слязінкаю
На касу раса,—
Прападзе з касынкаю
І мая краса.

Вочы затуманяцца
Нежаданай росстанню,
Мілы адцураецца,
Зыдзецца з няпростаю.

Як павее ветрыкам
З-за кустоў ракіт,—

Не сустрэцца з Петрыкам,
Не падаць рукі.

Не хадзіць мне сцежкаю
Лугавой, квяцістаю,
Як ажно да поўначы
Ля крыніцы выстаю.

Пабрыду я ў вішаннік
Рана ад відна,
Пасяджу пад вішанькай,
Пасяджу адна.

Пад галінкай нізкаю,
Ой, ды пад квяцістаю
Неразлучна з кніжкаю
Вольны час я выстаю.

У вачах заручанай
Думка прабяжыць,
Як не быць нявучанай,
Кніжка, падкажы.

Раскажы, як працаю
Слава нажываецца,

Раскажы, як працаю
Радасць дабываецца.

А павее ветрыкам
З галубой ракі,—
Няма рады з Петрыкам,
Не адняць рукі.

Не пайду ж я сцежкаю
Лугавой, квяцістаю,
А пад вішняй з кніжкаю
Да цямна я выстаю.

*Верасень 1936 г.*

* * *

...Адну ўсяго дзяўчыну
У жыцці я пакахаў...

Яна малога росту,
З хітрынкаю ў вачах,
Таму не вельмі проста,
Што я зусім зачах,

Бо я сабой знадворку
Зусім і не герой,
Каб ад кахання горка
Не бедаваць парой.

К таму яна заўсёды,
Як быццам назнарок,
Сваю трымае моду,
Каб мой туманіць зрок.

*1936 г.*

* * *

Добрая! Якім найлепшым словам
Цябе мне пры сустрэчы прывітаць!
Беднаю такой здаецца мова,
Каб шчырасць маіх думак перадаць.

Гэткай чалавечаю і простай
Стаіш ты, дружбы светлы ідэал,
Вышай прасталюдскага сяброўства
І вышай разумення ўсіх пахвал.

Чыстым і такім адкрытым зрокам,
Нявінная, глядзіш ты на людзей.
Думаю, твой шлях, як зрок шырокі,
Цябе да слаўнай мэты давядзе.

Свет перад табой наўсцяж расчынен,
Любоў твая — бяздонная рака.

Рэдка бо здараецца дзяўчыну
Як сябра дарагога сустракаць.

Скажаш ты, што я тут амарален,
Як хочаш, дарагая, гавары,
Гэткія, як я, жыццё стваралі,
Не ведаўшы дзіцячае пары.

Гэткія, як я, хоць здольны марыць
Ды цэняць, існуе што наяву.
Што ж, калі і я цябе, Тамара,
Пацішу дарагою назаву.

З іншаю, вядома, афарбоўкай,
Не так, як бы назваў цябе другі,
Сэрца закрануўшая сяброўка,
Не шмат такіх на свеце дарагіх.

Дні мае! У жыцці не толькі зло вам.
Пра шчасце мне ў зязюлі не пытаць.
Добрая! Якім найлепшым словам
Цябе мне пры сустрэчы прывітаць!

*Снежань 1936 г.,*
*Гомель*

## «МАЛІРЫ»

Не шуміце журботна, бярозы, ў гаю
З рана-раненька,
Не жартуйце задумна галінкамі вы
Аж да вечара.
Я сустрэчную песню «Маліры» пяю
З рана-раненька,
Адгалоскі калышуць прастор палявы
Аж да вечара.

Напаткаў я цябе нечакана зусім
З рана-раненька.
Я не мог раскідаць сваіх дум з галавы
Аж да вечара.
Я радзімую песню на сэрцы насіў
З рана-раненька,
У вачах калыхаўся прастор палявы
Аж да вечара.

Я нясмела цябе сустракаў кожны дзень
З рана-раненька,
І мне вобраз мярэшчыўся твой, як жывы,
Аж да вечара.
Толькі ён маю шчырасць і думку вядзе
З рана-раненька
Праз няблекнуўшы ў песнях прастор палявы
Аж да вечара.

Не шуміце журботна, бярозы, ў гаю
З рана-раненька,
Жартаўліва не кпіце галінкамі ўвысь
Аж да вечара.
Сустракаю цяпер я «Маліры» маю
З рана-раненька.
І палошча напеў наш прастор палявы
Аж да вечара.

*Жнівень 1936 г.*

## НЕЗНАЁМАЙ

У гэту хвіліну,
чаканую мной,
Я нешта вялікае ўспомніў.
І гэтай хвіліне
ты будзеш віной,
Мільгнуўшая ярасным промнем,
Мяне ахмяліўшая
дзікім віном
Сваёй прастаты невымоўнай.

У гэту хвіліну,
любімая мной,
Паўстала ў вачах маіх постаць,—
Такая ж, як ты, незнаёмка,
адно —
Ніжэйшага крышачку росту.

І вочы,
І косы,
Аблічча вясны,
Мне помнілі доўга
Пакутныя сны...
Такую —
ці верш,
а ці песню-сястру —
Ніколі я з вуснаў
сваіх не сатру.

*1936 г.*

* * *

Ты такая сур'ёзная стала,
Вельмі цяжка цябе пазнаць.
Зірк твой — бляск і вага металу,
Бровы — цвёрдага шкла крывізна.
Ты звычайна і проста спытала:
«Ты ж ці будзеш мяне шанаваць?»
Ты такая сур'ёзная стала,
Вельмі цяжка цябе пазнаць.

*Чэрвень 1936 г.*

## АКТ

Я назваў сягоння вішню мілай
І яе лісток пацалаваў,
Бо пад ёй з такой лірычнай сілай
Пасядзець прыцягвае трава;
Бо яна мяне, як спеў, насіла
Ў вышыню, аж кружыць галава,
Мяне песняй чулай напаіла,
Што каханай голас распяваў;
Бо пад ёй у вусны сваёй мілай
Шчыра я за ўсё пацалаваў.

*Чэрвень 1936 г.*

## АДВЯЧОРАК

Сустракаюць змрокі ціш у садзе,
Ад сукведцяў пах ідзе густы.
Дарагая, выйдзем разам, сядзем,
Запяеш сваю мне песню ты.

З ласкай мяккай пругкія галіны
Замахаюць з ветлівасцю нам.
Не шкадуй адной якой хвіліны,
Раздзялі са мною папалам.

Так ад сэрца шчыра пагаворым,
Я свой вершык раскажу табе,
Ты мне скажаш, што ён крыху хворы,
Што ўнікаць у сэнс трэба глыбей...

Але мы з табою ў дружбе зладзім,
Яшчэ бліжай сыдземся прытым.
Дарагая, выйдзем разам, сядзем,
Запяеш сваю мне песню ты.

*31 мая 1936 г.*

## СТАЛАСЦЬ

Гавары мне, мілая, што хочаш
І мяне як хочаш называй,—
Я ж люблю табе глядзець у вочы,
Аж пакуль закружыць галава.

Ты мне кажаш:
«Гэта па-дзіцячы,
І нервозны ты толькі таму,
Што агонь любві такі гарачы
Першы раз прыліў к нутру твайму».

І ў вачах тваіх
такіх дымчатых
(Мне не бачыць гэтакіх другіх)
Бачу я, што ўсёй зямлі дзяўчаты
Не заменяць зірк твой дарагі.

Хай ён будзе строгі і халодны,
Ўсё адно я рад без лішніх дум,
Што з табой, пагардлівай і роднай,
Пад руку па вуліцы прайду.

*Май 1936 г.*

## МАЙСКАЯ НОЧ

Не скажу, што зорка мігацела,
Месяц плыў у бездань, у блакіт,
Зоры іскрамі калолі маё цела,
Месяц браў мяне на кулакі.

Не скажу: над рэчкай плаваў дымам
Светлакудры, ласкавы туман,—
То мяне туманіла уздымам
Ты, мая каханая, сама.

*Май 1936 г.*

* * *

У час хваробы

Не кажы, што я сягоння сумны,
Што стаю задумны, не кажы...
Бачу я абвесненыя гумны,
Дзе пяюць пад сонцам капяжы.

Эх, вясна! І мне ты не аднойчы
Навявала радасці да слёз...
А цяпер...
І прагнасць мяне точыць,—
Не дастаць салодкі сок бяроз.

Толькі сіні лапік краявіду
Мне аб чымсьці кажа праз акно.
Дай туды, да лесу, ў поле, выйду,
Дай прайду за плугам баразной.

Рассмяюся звонка, зычна, шчыра,
Раскідаю песню сваю ў шыры!

Ды хвароба — ліпкая навяза,
Ей [illegible] падушцы прыкрай я прывязан.

Не кажы ж, сястра, мне, што я сумны,
Што стаю задумны, не кажы...
Што з таго, што абвяснелі гумны,
Што пад сонцам прэюць капяжы.

*1935 г.*

## Я ХАЧУ З ТАБОЙ НАГАВАРЫЦЦА

Пасядзі са мной, мая сястрыца,
Крыўды я табе не прынясу.
Я хачу з табой нагаварыцца,
Сваю радасць выліць, а не сум.

Помніш, мы сустрэліся пад восень
У інстытуце, з кнігай за сталом.
Сорак год ужо, а мне здалося —
Так нядаўна ўсё гэта было.

Гаварыць мне хочацца з табою,
І я песню весела пяю,
Бо бязмерна рад за нас абоіх,
За тваю вучобу і маю.

Ты ударніцай вучобы стала,
І вялікі твой аўтарытэт.
Мае 'шчэ такіх, як ты, нямала
Наш чырванасцяжны факультэт.

Вось таму я песню падымаю,
Што самому хочацца злажыць,
За цябе, за нас, за свята Мая
І за край, дзе так прыгожа жыць.

Пасядзі ж са мной, мая сястрыца,
Крыўды я табе не прынясу.
Я хачу з табой нагаварыцца,
Сваю радасць выліць, а не сум.

*14 красавіка 1936 г.*

* * *

З інтымных услаўляючы вышынь,
Узросту твайму радуюся я,
Прымі маё вітанне ад душы,
Харошая таварышка мая.
Расце твой вобраз родны, дарагі,
Як ранак летні ў росах вырастае,
Са статкам ты абходзіш берагі,
Убірае тваю песню ціш густая.
Пяе ўспамін дзіцячую пару,
Бяздумную, віхрастую хлапечасць,
Юнацтва быстрацечнае бяру,
Там — ты, сястра, ў вачах маіх трапечаш.
І плавае пад сонцам у бары
Пахучая сасновая цягучасць.
Там статак свой, пастушка, сабяры,
І смагу казак сэрца хай патушыць.

У цьмяны дзень учорашняга дня
З сям'ёй пастушай бацька наш аджыў.
Табе над ім з сардэчнасцю падняць
Сваю славутасць на яго ж крыжы.
Пастушкі імя ў вецнях шалясціць,
У песнях раніцай абуджаных гаёў,
І песняй узнімаецца цвісці
Багацце неабдымнае тваё.
Ты зараз выйдзі, гаруску накінь,
Гарэзнасцю і знатнасцю сяброўак
Умеюць захапляцца юнакі,
Як маладзіцы ўмеюць супіць бровы.
Ты сілу сваю голасна рассып,
Каб пошчакам зайшліся аж прасторы,
Сімфонію ўзросту і красы
Вясна, твая падшэфніца, паўторыць.
Расце твой вобраз родны, дарагі,
І шырыцца павагі цішыня...
Ці чуеш ты, як сэрца пульс тугі,
І розумам пачуцці не суняць.
Дзе ты ні йдзеш — і я іду з табой,
Каб разам нам да ядранай зары
Пра бацькаўшчыну, шчасце і любоў
Так шчыра ад душы пагаварыць.

Прымі ж вітанне, песні не тушы,
Харошая таварышка мая!
З інтымных услаўляючы вышынь,
Узросту твайму радуюся я.

*Снежань 1936 г.*

## ЗМЕСТ

*Кастусь Кірэенка.* Шчырасць юнацкага сэрца . . . . . . . . . . . . . . 3
Цішыня . . . . . . . . . . . . . . . 11
Арлёнак . . . . . . . . . . . . . 13
Радасць . . . . . . . . . . . . . . . 16
*** Запахнуць ноччу духавітай травы... 19
У касавіцу . . . . . . . . . . . . . 21
Жніўная ноч . . . . . . . . . . . 23
Маладзік . . . . . . . . . . . . . 25
Сож . . . . . . . . . . . . . . . . . 27
На стадыёне . . . . . . . . . . . 28
Другу . . . . . . . . . . . . . . . . 31
*** Каму, калі не нам з табой, паслухаць... . . . . . . . . . . . . 33
*** Што ні дзень... . . . . . . . . . 35
*** Лета з жураўлямі... . . . . . . . . 36
Паэту . . . . . . . . . . . . . . . . 38

Зноў вясна . . . . . . . . . . . . . 41
Рыбакі . . . . . . . . . . . . . . . 43
*** Іскраметная квецень зары... . . . . 46
Спатканне з *** . . . . . . . . . . . 48
Гутарка з прафесарам . . . . . . . . 49
Песня . . . . . . . . . . . . . . . 52
*** Прыгадаю ў памяці з былога... . . 54
*** Я сяджу ў задуме... . . . . . . . 56
*** Хай песня звініць не праклёнам... 59
Якубу Коласу . . . . . . . . . . . . 60
Сястры . . . . . . . . . . . . . . . 62
*** Як румянае сонца на сад усплыве... 65
Ліпы цвітуць . . . . . . . . . . . . 66
Жураўы . . . . . . . . . . . . . . . 68
Восень . . . . . . . . . . . . . . . 70
*** На бярэзнік маладжавы... . . . . 72
Восенскі вецер . . . . . . . . . . . 74
*** Пабрыду я сцежкаю... . . . . . . 76
*** ...Адну ўсяго дзяўчыну... . . . . 79
*** Добрая! Якім найлепшым словам... 80
«Маліры» . . . . . . . . . . . . . . 82
Незнаёмай . . . . . . . . . . . . . 84
*** Ты такая сур'ёзная стала... . . . 86
Акт . . . . . . . . . . . . . . . . 87

Адвячорак . . . . . . . . . . . . . . 88
Сталасць . . . . . . . . . . . . . . 90
Майская ноч . . . . . . . . . . . . 92
*** Не кажы, што я сягоння сумны... 93
Я хачу з табой нагаварыцца . . . . 95
*** З інтымных услаўляючы вышынь... 97

На белорусском языке

*Гаврилов Леонид Григорьевич*
ВЕРНОСТЬ

Государственное издательство БССР
Минск 1961

Рэдактар *Хв. Жычка*
Мастак *М. Шырокаў*
Мастацкі рэдактар *Л. Прагін*
Тэхнічны рэдактар *Г. Калечыц*
Карэктар *Н. Лебедзева*

АТ 12003. Здадзена ў набор 28/VI 1961 г. Падп. да друку 26/VII 1961 г. Тыраж 2400 экз. Фармат $84 \times 108^1/_{64}$. Фіз. друк. арк. 1,625. Ум. друк. арк. 2,66. Уч.-выд. арк. 1,69. Зак. 362. Цана 8 кап.

Паліграфічны камбінат
імя Я. Коласа

Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск, Чырвоная, 23

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
РЭДАКЦЫЯ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ
МІНСК 1961

**Выйшлі кнігі паэзіі:**

Бажко А. Карвіга пакідае хутар. *Вершаваная аповесць.*

Бялевіч А. Вясёлка над полем. *Вершы.*

Бічэль Д. Дзявочае сэрца. *Вершы.*

Гілевіч Н. Неспакой. *Вершы.*

Дзеружынскі А. Калінавы цвет. *Вершы і песні.*

Дубоўка Ул. Палеская рапсодыя. *Вершы.*

Звонак А. Запаветнае. *Вершы.*

Ляпёшкін Ул. Ранішнія росы. *Вершы.*

Лойка А. Задуменныя пералескі. *Вершы.*

Смагаровіч М. Маё выступленне. *Вершы.*